ISSN-5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К.Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ – Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. *Canada Post: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2*

*U. S. Post: Assn of Byelorussian-American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N. J. 08904*

Год 10 | Верасень, 1984 | № 3 (35)

## ПАМАЖЫ, БОЖА!

Галоўная ўвага сёлетняй, шаснаццатай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, што адбудзецца ў Кліўлендзе ў днях 1-3 верасьня, будзе прысьвечана, як выглядае з праграмы, дасягненьням беларускае актыўнае эміграцыі й яе арганізацыяў у Амэрыцы за апошнія 35 гадоў. У 1948-49 гадох паўсталі тут нашы дзьве галоўныя грамадзкія арганізацыі – Згуртаваньне Беларусаў Канады й Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, якія, калі так льга выразіцца, пусьцілі карэньне, а пасьля й розныя меншыя атожалкі, якія ахапілі ўсе галіны беларускага эміграцыйнага жыцьця ў Новым Сьвеце.

Важным для нашых быўшых вайскоўцаў ёсьць і тое, што першы дзень сёлетняй сустрэчы адначасна будзе Другой Сусьветнай Сустрэчай Беларускіх Вэтэранаў. Першая сустрэча адбылася ў Манчэстары ў Англіі ў 1974 годзе. У выніку яе паўстаў Камітэт Сувязі Беларускіх Вэтэранаў, часапіс "Зважай" і ўсё гэта спрычынілася да актывізацыі нашага вэтэранскага жыцьця.

Першая Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбылася на канадыйскай зямлі ў Нягары ў 1952-м годзе. Нашу новапрыбыўшую эміграцыю, пераважна моладзь, вітаў тады наш выдатны суродзіч, прадстаўнік Рады БНР у ЗША Янка Змагар-Чарапук. Ад гэнага гістарычнага спатканьня падобныя сустрэчы сталіся, кажныя два гады, стымулам і натхненьнем у нашай грамадзкай, рэлігійнай, культурна-асьветнай і палітычнай працы. Яны, як ніякія іншыя імпрэзы, на вялікі маштаб спрычыняліся да ўзмацненьня асабістых кантактаў, сяброўства й вынікаючага з гэтага супрацоўніцтва нашых суродзічаў, раськінутых па вялізным амэрыканскім кантынэнце.

Калі-б перачытаць рэзалюцыі ўсіх пятнаццаці папярэдніх сустрэчаў Беларусаў Паўночнае Амэрыкі дык тут як на далані можна пабачыць якую вялікую палітычна-маральную вагу маюць яны для нас і нашага народу ў змаганьні за вызваленьне нашай сяньня паняволенай Маскоўшчынай бацькаўшчыны. Ці раз у крытычных мамэнтах гісторыі, заходнія дэмакратычныя дзяржавы й народы пачулі наш голас у абароне інтарэсаў паняволенага беларускага народу. Дзіва няма, што Масква ня спыняе сваіх зацятых крывадушных атакаў супраць нашай палітычна-сьведамай і актыўнай эміграцыі. Як баліць маскоўскім забойцам наш вольны голас!

Апроч немалых посьпехаў, пераважна ў палітычнай галіне, сустрэчы гэтыя мелі й свае недахопы. Зашмат, на нашу думку, гаварылася пра гісторыю, прошлае, а замала часу прысьвячалася плянаваньню працы на будучыню. Гэтая "гамонка" – у большасьці мякіна ці трасянка – ёсьць, відаць, хаця-нехаця, непазьбежным элемэнтам вось такіх маштабных сустрэчаў, у якіх масавы ўдзел бяруць шматлікія арганізацыі й людзі.

Калі перафразаваць ведамага Рэмарка: ёсьць час жыць і час паміраць, ёсьць час гуляць і час працаваць, ёсьць час цешыцца й сумаваць.

На такіх сустрэчах, нажаль, некаторыя ўдзельнікі намагаюцца як найбольш пагуляць, а мала сур'ёзна падумаць, папрацаваць, падзяліцца зь іншымі ўдзельнікамі сваей дасьветчанасьцю ў працы для нашага агульнага дабра, заплянаваць працу на будучыню.

Нам яшчэ раз трэба сур'ёзна падумаць як прысьпяшыць увядзеньне беларускамоўных праграмаў у "Голас Амэрыкі", як паставіць на ногі выдавецтва дакумантальнай ваеннай і гістарычнай літаратуры, пра якую ўжо ці мала гаварылася. Ня будзем згадваць ужо ці раз паўтаранага-перамеленага пра нашу "гістарычную адказнасьць", "патрыятызм" і іншае. Вэтэраны нашы павінны зрабіць больш чым дагэтуль і то ня толькі ў падтрыманьні "Зважай".

Як адны з гаспадароў сёлетняй сустрэчы, мы, беларускія вэтэраны, вітаем усіх удзельнікаў і гасьцей, асабліва далёкіх і ў нас рэдка бачаных, жадаем усім добрага здароўя й прыемнага адпачынку, а ў працы для нашага агульнага дабра й для вызваленьня паняволенай Беларусі,

памажы Вам, Божа!

*Др. В. Сяньkевіч*

# У 190-я ЎГОДКІ АНТЫМАСКОЎСКАГА ПАЎСТАНЬНЯ Ў БЕЛАРУСІ

*Пачатак гл. № 1(33) і № 2(34).*

Горадзенскі надзвычайны сойм, працы якога трывалі ад 21.6 да 23.11 1793 году, быў скліканы на загад Расеі й адбываўся пад тэрорам царскіх войскаў. Гэта быў апошні сойм супольнай дзяржавы – Рэчы Паспалітай. Ён пакорна згадзіўся й зацьвердзіў другі падзел, адначасна абмяжоўваючы колькасьць нашага войска да 7 600 чалавек, якія сілай былі далучаныя да расейскай арміі (2).

Эканамічны крызіс і агульнае абядненьне краіны ў выніку вайны 1972 году ды скарачэньне вытворчасьці й заняпад гандлю перш за ўсё пагоршылі становішча гарадзкога жыхарства, якое шукала выхаду шляхам рэвалюцыі. Лёзунгі змаганьня за аднаўленьне незалежнасьці Рэчы Паспалітай знаходзілі жывы водгук і між безьзямельнай і малазямельнай шляхты, а таксама той часткі сярэднямаёнткавай шляхты, якая яшчэ напярэдадні заняпаду Рэчы Паспалітай стала на шлях вядзеньня таварнай гаспадаркі.

Рэакцыйнае магнацтва, – галоўны віноўнік умяшаньня Расеі ў нутраныя справы Рэчы Паспалітай, – выступіла супраць ідэі збройнай барацьбы за нацыянальнае вызваленьне. Яно больш за ўсё баялася рэвалюцыйнага выступленьня прыгоннага сялянства й гарадзкіх нізоў. Рэакцыйнае магнацтва ВКЛ было поўнасьцю салідарнае з магнацтвам польскім. Іх вязала агульная нянавісьць да канстытуцыі 3.5.1791 году. Беларускае, або, – гаворачы гістарычнай тэрміналёгіяй, – літоўскае магнацтва, было асабліва раздражненае тым пункатм канстытуцыі, які абвяшчаў утварэньне ўнітарнай дзяржавы й ліквідаваў нутраную аўтаномію ВКЛ. Яно баялася страціць свой вырашальны ўплыў на палітыку краіны і із зброяй у руках бараніла стары дзяржаўны лад.

Генэрал расейскае службы, гэтман літоўскі Сымон Касакоўскі быў арганізатарам накіраванай супраць канстытуцыі канфэдэрацыі ў ВКЛ Будучы галоўнакамандуючым усіх войскаў у Вялікім Княстве, ён верна выконваў пастановы Горадзенскага сойму.Падобна як і польскае магнацтва, магнаты ВКЛ арыентаваліся на Расею, мяркуючы выкарыстаць ейныя ваенныя сілы для здушэньня рэвалюцыйнага руху ў краіне. Як кіраўнік рэакцыйнага магнацтва ў ВКЛ, Касакоўскі быў агульна ненавіджаны. Упарта праводзячы палітыку скарачэньня арміі ВКЛ, ён імкнуўся справакаваць передчасны выбух паўстаньня.

Настроі шляхоцкіх масаў і гарадзкога жыхарства Беларусі спрыялі арганізацыі паўстаньня. Скарачэньне ёмістасьці нутранога рынку і заняпад нутранога гандлю цяжка адбіліся на эканамічным становішчы гараджанаў. Расейская эканамічная палітыка ставіла экспарт ВКЛ у вельмі нявыгадныя ўмовы. Рэзка пагоршылася эканамічнае становішча тых пластоў шляхты, што ў сваіх маёнтках наладжвалі таварную гаспадарку.

Разьмешчаньне на тэрыторыі ВКЛ расейскіх войскаў, для якіх гарадзкое насельніцтва, у асаблівасьці жыхары Вільні, павінны былі ўступаць кватэры, выклікала вялікую незадаволенасьць галоўным чынам дробнага мяшчанства, паколькі багацейшыя мяшчане адкупляліся ад усялякіх павіннасьцяў, зьвязаных з утрыманьнем маскоўскага войска.

Лёзунгі змаганьня за нацыянальную незалежнасьць знаходзілі шырокі водгук сярод безьзямельнай беларускай шляхты. Апроч прыгоннай эксплятацыі, сялянства вельмі моцна цярпела ад цяжару пабораў, розных рэквізыцыяў, пастаўкі фуражу й падводаў для арміі, пабудовы мастоў і дарогаў ды зьдзеклівага стаўленьня да яго расейскага акупацыйнага войска. Усё гэта ў значнай ступені пагоршыла й бяз гэтага цяжкое становішча прыгонных сялянаў. Таму сялянства ВКЛ ставілася варожа да акупацыйных уладаў і гатовае было прыняць удзел у паўстаньні.

Паўстаньне ў ВКЛ пачалося ў паасобных мясцовасьцях у розны час. Паўстанскія асяродкі ня былі зьвязаныя адзінствам дзеяньня й праграмы, не стварылі адзінага паўстанскага фронту ў той час, як расейскае войска ўяўляла сабою значную сілу.

На пачатак паўстаньня агульная колькасьць войска ВКЛ сягала 8 тыс. чалавек, колькасьць мізэрная ў параўнаньні зь людзкімі ваеннымі рэсурсамі Расеі. Колькасьць расейскай арміі ў ВКЛ ген. Ігэльстром акрэсьліваў у 5 920 чалавек пры 33-х палявых гарматах. Большая часьць маскоўскага войска стаяла ў Вільні пад камандай ген. Арсеньнева. Ген. Цыцыянаў із сваім адзьдзелам разьмясьціўся ў Горадні. Іншыя невялікія расейскія вайсковыя адзінкі памясьціліся ў Коўні, Наваградку й Жыжморах. Паўстанцы ВКЛ мяркавалі, што сялянства далучыцца да паўстаньня.

Унівэрсал Тадэвуша Касьцюшкі, абвешчаны ім 24.3. 1794 г. у Кракаве, быў добра ведамы на тэрыторыі ВКЛ і паслужыў штуршком да пачатку паўстанскага руху ў Шаўлях і Жамойці. Паўстаньне ў Шаўлях пачалося 11.4. у сувязі з прыбыцьцём ген.маёра Хлявінскага, які прывёз загад Касакоўскага аб скарачэньні арміі. Загад ня быў выкананы, бо ўся армія супраціўлялася яму дый сам Хлявінскі быў змушаны ня толькі прымірыцца з фактам нежаданьня арміі падпарадкавацца загаду гэтмана Касакоўскага, але й падпісаць акт паўстаньня. Толькі два афіцэры, – Ласутовіч і Трускоўскі, не пажадалі далучыцца да акту паўстаньня. Гэтак пачаўся паўстанскі рух на землях ВКЛ.

Із Шаўляў рух пашырыўся на Расены. Затым нацыянальна-вызвольны рух ахапіў ваенныя часьці ў Вілкавішках. Гэтак уся Жамойць была ўцягнутая ў сфэру паўстаньня.

Аднак для прагрэсу паўстаньня ў ВКЛ вялікае значэньне мела выступленьне гарадзкога жыхарства



*Генэрал Якуб Ясінскі*

Вільні. Разумеючы ваеннае й палітычнае значэньне сталіцы, паўстанцы імкнуліся ператварыць Вільню ў цэнтар паўстанскага руху й стварыць у сталіцы ВКЛ часовы ўрад, які кіраваў-бы ходам паўстаньня й прадстаўляў сабою незалежнае Вялікае Княства Літоўскае.

Паўстаньне, якое пачалося ў Вільні ноччу на 23.4, было падрыхтавана дзеячамі левага крыла шляхоцкага блёку на чале з палкоўнікам Якубам Ясінскім (3). Разгорнутыя ў Вільні падзеі адрозьніваліся ад рэвалюцыйных падзеяў у Варшаве. У часе начнога захопу Вільні, які скончыўся зьбіваньнем і паланеньнем часткі расейскага войска і ўцёкамі рэшты яго пад камандай Тучкова, гарадзкія масы ўдзелу ня бралі. Ня гледзячы на васьміразовую колькасную перавагу расейскага войска, плян атакі супраць маскоўскага гарнізону быў выкананы ізь зьдзіўляючым посьпехам. Ясінскі выдаў загад зачыніць гарадзкія брамы й гэтым спыніць усялякія сувязі з вонкавым сьветам. У пляны Ясінскага ўваходзіла ўтварэньне ў ВКЛ часовага ўраду, які ачоліў-бы паўстаньне. Загады віленскага ўраду павінны былі мець моц на ўсёй тэрыторыі ВКЛ.

Гэтакі часовы рэвалюцыйны ўрад — Найвышэйшая Літоўская Рада, — быў створаны адразу. Ужо 24.4 Рада выдала маніфэст аб далучэньні да паўстаньня Т. Касьцюшкі ў Польшчы і ў якім заклікала ўзяцца за зброю, каб здабыць свабоду й роўнасьць. Урад гэты арганізаваў крымінальны суд і прыцягнуў да адказнасьці гэтмана і генэрала Касакоўскага, гэтага актыўнага дзеяча рэакцыі й ворага канстытуцыі 3.5.1971-г. ды прыхільніка Расеі. Суд над гэнэралам быў кароткі. Касакоўскі быў прысуджаны да сьмяротнай кары. 25.4.1794 г. прыгавор быў выкананы. Адначасна часовы ўрад выдаў загад, паводля якога сьмяротная кара пагражала ўсім, хто будзе дзейнічаць супраць волі народу. Апроч Касакоўскага, былі арыштаваныя і іншыя таргавічане, западозраныя ў шпіянажы на карысьць расейскага ўраду, а таксама некалькі мяшчан, абвінавачаных у рабаваньні ў часе паўстаньня ноччу з 23 на 24 красавіка. У турму былі пасаджаныя маршалак віленскай канфэдэрацыі Ігнат Швыкоўскі, ягоны сакратар Канановіч і іншыя здраднікі таргавічане. Крыху пазьней суд прысудзіў Швыкоўскага да павешаньня і 14.5 прыгавор быў выкананы (4).

Паўстаньне, распачатае ў Вільні, у хуткім часе ахапіла ўсе заходнія ваяводзтвы ВКЛ. Яно асабліва пашырылася пасьля травеньскіх падзеяў і пакараньня Швыкоўскага, калі да вайсковых адзьдзелаў далучылася шляхта й гарадзкое жыхарства. 27.5.1794 г. "Свабодная Варшаўская Газэта" паведамляла, што "жыхары Горадні сабраліся для ўкладаньня паўстанскай дэклярацыі, паводля Акту Кракаўскага паўстаньня (5)". У наступным нумары таясамая газэта пісала, што "жыхары мястэчка Наваградка, атрымаўшы весткі пра набліжэньне ворага, выставілі муніцыпальную гвардыю да 3 тыс. чалавек, узброеную пікамі, косамі й сякерамі" (6). Ген. Кнорынг даносіў із свайго боку графу Салтыкову, што ў мястэчку Ашмяне знаходзіцца рэгулярнае войска ўзброеных сялянаў пад камандай Ясінскага да 10 тыс." (7). Паўстанцы захапілі таксама ўладу ў свае рукі ў Берасьці, Пінску, Слоніме і іншых гарадох (8).

Для ўдзельнікаў руху вельмі важным было далучэньне да паўстаньня падскарбяга вялікага ВКЛ Міхала Агінскага, які атрымаў сваю пасаду ад таргавічанаў. Агінскі адмовіўся ад пасады падскарбяга і ўвайшоў у склад паўстанскай улады. Ахвяраваў ён на патрэбы паўстаньня 118 тыс. злотаў і на свой кошт сфармаваў батальён конных егераў, якім камандаваў у некалькіх бітвах. Двойчы із сваім адзьдзелам спрабаваў прабіцца ў Менскую губэрню, але быў адбіты (9).

Сьледам за Агінскім сталі ахвяроўваць і іншыя. Гэтак, кап. Нагурскі забавязаўся забясьпечыць і ўзброіць 500 чалавек, што й зрабіў. Шматлікія ахвяраваньні стварылі фонд у памеры 461.750 злотаў, не гаворачы ўжо пра значную колькасьць розных каштоўнасьцяў, золата й серабра ў зьлітках і вырабах. Гэтак віленскі ўрад атрымаў значную фінансавую дапамогу, якая дала яму магчымасьць прыступіць да арганізацыі паўстанскай арміі.

Быў аб'яўлены рэкруцкі набор зь сялянаў і добраахвотнікаў: кажныя 25 сялянскіх дымоў павінны былі выставіць аднаго рэкрута; апроч гэтага кажныя пяць сялянскіх дымоў павінны былі даць аднаго добраахвотніка. Адзін добраахвотнік выстаўляўся ад 25 шляхоцкіх дымоў. Гэтая прапорцыя выразна сьветчыць, што Найвышэйшая Рада ВКЛ хацела стварыць баяздольную армію галоўным чынам зь сялянаў.

У сувязі з паўстаньнем, становішча прыгонных сялянаў значна пагоршылася. Яны адбывалі павіннасьці ня толькі свае ўласныя, але працавалі й за тых сялянаў, што былі пакліканыя ў армію. Рэкруцкая павіннасьць, дастаўка фуражу й правіянту, фурманкавая павіннасьць — усё гэта лягло на плечы сялянства.

Мясцовыя земляўласьнікі былі супраць набору сялянаў у шэрагі паўстанцаў. Не жадаючы траціць рабочых рук, яны ўсяляк перашкаджалі пастаўцы рэкрутаў. Многія зь іх так і ня выканалі мерапрыемства, што было запрапанаванае віленскім урадам. Кіраўнікі віленскага паўстаньня, — Ясінскі і ягонае акружэньне, вельмі добра разумелі нязвычайную слабасьць свайго становішча, паколькі ВКЛ было адарванае ад Варшавы й Кракава. З мэтаю ўзмацненьня паўстаньня й адцягненьня расейскіх сілаў, Ясінскі з самага пачатку ўважаў патрэбным выклікаць паўстаньне на тэрыторыі Беларусі, якую Масква захапіла ў часе двух падзелаў Рэчы Паспалітай.

Расейскае ваеннае камандаваньне, бязумоўна, лічылася з магчымасьцяй агітацыі й прапаганды паўстаньня на захопленых землях Беларусі. Яно было добра паінфармаванае аб плянах Найвышэйшай Рады ВКЛ і, зразумела, устрывожылася, бо разьмешчаныя на тэрыторыі Меншчыны войскі даводзілася пераводзіць у заходнія часткі ВКЛ для ўзмацненьня тамашніх разрозьненых маскоўскіх сілаў.

Няўдача "паспалітага рушэньня", збор якога зрываўся самой шляхтай, прадвызначала апаразу паўстаньня.

Паўстаньне ў Вільні пачалося бязь ніякай сувязі з падзеямі ў Варшаве. Весткі пра падзеі ў Шаўлях і Заблудаве былі ў Варшаве атрыманыя 25.4. Варшаўскі часовы ўрад безадкладна выслаў у Заблудаў сваіх прадстаўнікоў І.Н.Гарэйна і ген. Гажэнскага для ўзгадненьня дзейнасьці з заблудаўскімі паўстанцамі. У форме ваеннай дапамогі ім выслалі і чатыры гарматы (у Заблудаве паўстанцы ня мелі артылерыі).

Ужо на працягу некалькіх месяцаў войскі ВКЛ не атрымлівалі платы ад гэтмана Касакоўскага й знаходзіліся ў крайня бедным становішчы. Із сваіх сродкаў, варшаўскі ўрад выслаў грошы на аплату жаўнераў, аднача сна запрапанаваўшы, пасьля афармленьня актаў паўстаньня, зьвярнуцца да грамадзтва з просьбай пра грашовыя ахвяраваньні, а таксама прыняць меры для павялічэньня ваенных сілаў.

Як сьцьвярджае Ул. Пічэта, "Паўстаньне ў Вільні й дзеяньні віленскага ўраду былі прасякнутыя духам сэпаратызму" (10). Віленская Найвышэйшая Рада ВКЛ абвесьціла сябе агульналітоўскай (у гістарычным значэньні гэтага тэрміну) і праводзіла палітыку незалежна ад Кракава й Варшавы. Гэта тлумачылася тым, што акты абвешчаныя ў Кракаве, ставілі мэтай аднаўленьне незалежнасьці Рэчы Паспалітай на аснове канстытуцыі 3.5.1791 г., унітарнай паводля сваіх прынцыпаў. Гэтая канстытуцыя, як мы ўжо адзначылі раней, ліквідавала аўтаномію ВКЛ. Беларускія паўстанцы гатовыя былі разам з польскімі весьці змаганьне за вызваленьне Рэчы Паспалітай спад улады акупантаў, аднак уважалі, што пры посьпеху паўстаньня ВКЛ павінна заняць папярэдняе палітычнае становішча. Інакш кажучы, кіраўнікі паўстаньня ў ВКЛ змагаліся й супраць ліквідацыі рэштак свае дзяржаўнасьці.

Як і можна было спадзявацца, гэты супраціў да поўнага зьліцьця ВКЛ з Польшчай, ня мог не адбіцца на ходзе паўстаньня 1794 г. Дзейнасьць віленскага ўраду варшаўскія ўрадавыя колы сустрэлі вельмі няпрыхільна. Варшаўскі ўрад пастанавіў прыняць меры для поўнага падпарадкаваньня сабе ўраду ВКЛ. 20.5.1794 г. Т. Касьцюшка назначыў Якуба Ясінскага генэрал-лейтанантам і галоўнакамандуючым усяго літоўскага войска. У сваім лісьце да Віленскае Рады ён скрытыкаваў ейную дзейнасьць як шкодную і небясьпечную. Касьцюшка ўважаў, што ВКЛ абавязанае безагаворачна далучыцца да акту паўстаньня.

Найвышэйшая Літоўская Рада вымушаная была прызнаць кіраўніцтва Касьцюшкі. Рада прызнала сваім вярхоўным правадыром і начальнікам Тадэвуша Касьцюшку, адначасна захоўваючы за сабой свабоду дзеяньня ўнутры краіны. Перад урадам ВКЛ было шмат заданьняў, якія даводзілася яму вырашаць зусім самастойна. Пазьней, калі Расея пачала ўпартую барацьбу на двух франтах — польскім і беларускім, Віленскаму ўраду давялося на свой страх і рызыку рабіць тыя ці іншыя захады.

Для ўзгадненьня розных дзеяньняў з варшаўскім урадам, Віленская Найвышэйшая Рада вызначыла свайго прадстаўніка Язэпа Кацэлу, якому была дадзеная інструкцыя, выпрацаваная ў сакрэтнай дэпутацыі 17.5.1794 году. Інструкцыя даручала Кацэлу палажыць канец усім непаразуменьням паміж Варшавай і Вільняй і дакладна вызначыць занятую віленскім урадам пазыцыю. Віленская Рада салідарызавалася з цантральным урадам і запэўнівала найвышэйшага галоўнакамандуючага ваенных сілаў, што яна ня мае ніякае іншае мэты, як толькі выконваць ягоныя распараджэньні й загады. Віленскі ўрад прызнаваў, праўда, адзінства ваеннага кіраўніцтва, але толькі пры пэўных умовах, а захоўваў за сабой права асобнага камандаваньня сваімі войскамі і, — што вельмі важна з нашага гледзішча, — забавязваўся выконкаць *толькі асабістыя распараджэньні Касьцюшкі*. Па сутнасьці, Рада падпарадкоўвалася ня цантральнаму польскаму ўраду, а Тадэвушу Касьцюшку (11).

Варшаўскія палітычныя колы былі вельмі незадаволеныя становішчам, якое стварылася ў Беларусі. Прадстаўнік варшаўскага магістрату Закшэўскі 8.5 выслаў ліст Міхалу Тызэнгаўзу, старшыні віленскага магістрату. У гэным лісьце, шчырым і вельмі ветлівым паводля тону, адчуваецца глыбокае раздражненьне й злосьць, якія ахапілі варшаўскія ўрадавыя колы. Гэтым лістом Закшэўскі хацеў узьдзейнічаць на Тызэнгаўза таму, што як старшыня віленскага магістрату, ён падпісаў акт паўстаньня.

Міхал Тызэнгаўз адразу адказаў свайму польскаму калегу, запэўніваючы, што між імі няма разыходжаньняў адносна мэтаў паўстаньня й што ВКЛ усім сэрцам прывязанае да Касьцюшкі.

Віленскі ўрад фармальна прызнаў Касьцюшку сваім кіраўніком, аднак у практыцы ён прадаўжаў дзейнічаць зусім самастойна. ВКЛ было самастойным тэатрам дзеяньняў, а ўся Касьцюшкава ўвага канцэнтравалася на ваенных дзеяньнях у Польшчы. Адсутнасьць выразнай узгодненасьці ў дзеяньнях паўстанцаў Беларусі й Польшчы не магло, бязумоўна, не адбіцца нэгатыўна на ходзе паўстаньня.

Становішча віленскіх паўстанцаў было цяжкое. Улада цантральнага ўраду ВКЛ пашыралася далёка не на ўсю краіну. Ваенныя сілы паўстанцаў былі недастатковыя, бракавала зброі. Касьцюшка і ўрад ВКЛ запланавалі экспэдыцыю ў Лібаву, а таксама зрабілі захады, каб узьняць паўстаньне ўва ўсей Курляндыі. Экспэдыцыя ў Лібаву закончылася ўдала, але яе ваеннае значэньне было невялікае. Прадстаўнік Т. Касьцюшкі, Ваўжэцкі, ня меў магчымасьці дастаць у Лібаве зброю. Замежныя купцы адмаўляліся прадаваць яму зброю й ваенныя прыпасы, спасылаючыся на забарону сваіх урадаў. Пры такіх умовах Ваўжэцкі, што камандаваў экспэдыцыяй, не атрымаўшы ніадкуль дапамогі, папрасіў Касьцюшку, каб адклікаў яго зь ВКЛ і перавёў на тэатр ваенных дзеяньняў у Кароне. Агітацыя за паўстаньне на Меншчыне працягвалася, аднак расейскія войскі рабілі ўсё магчымае, каб паралiжаваць тут усе намаганьні паўстанцаў.

У выніку, пад уплывам перапіскі з Касьцюшкам, 22 травеня Віленскі Ўрад вымушаны быў апублікаваць новы маніфэст, у якім урачыста заяўляў аб поўнай салідарнасьці з Кракаўскім актам паўстаньня, а таксама пра безагаворачнае падпарадкаваньне загадам начальніка.

Пасьля гэтага часовы ўрад ВКЛ юрыдычна ператварыўся ў ворган улады, што знаходзіўся пад агульнай кантроляй варшаўскага ўраду й Касьцюшкі. Але фактычна становішча мала зьмянілася. Імкнучыся мацней зьвязаць ВКЛ з Каронай, Касьцюшка й ягонае шляхоцкае акружэньне ўвялі ў склад варшаўскага ўраду — Найвышэйшую Народную Раду, прадстаўнікоў ВКЛ. Ад гэтага апошняга ў новы цантральны ўрад увайшлі Ігнат Патоцкі, Сулістроўскі, Ваўжэцкі й іншыя.

21.5.1794 г. Т. Касьцюшка апублікаваў маніфэст, дзе яшчэ раз пацьвярджалася, што ніхто, апроч яго, ня мае права насіць тытулу начальніка ўсіх ваенных сілаў і што назначаныя ім ген.-лейт. Я. Ясінскі, Павал Грабоўскі й Хлявінскі ёсьць толькі камандзерамі асобных корпусаў і абавязаны дзейнічаць у аднадумнасьці.

Гэтая катэгарычная заява мяняла юрыдычнае становішча Ясінскага, які пасьля пасьпяховага паўстаньня ў Вільні ўважаў сябе галоўнакамандуючым усіх ваенных сілаў у ВКЛ і ня быў схільны поўнасьцю падпарадкоўвацца Касьцюшку.

Паводля сваіх палітычных паглядаў Якуб Ясінскі быў значна больш радыкальны, чымся Касьцюшка. Магчыма што гэта апошняя акалічнасьць прымусіла Касьцюшку папярэджваць паўстанцаў ВКЛ перад інтрыгамі.

Віленскія падзеі падштурхнулі іншыя гарады ВКЛ далучыцца да паўстаньня. Расейскі генэрал Цыцыянаў у Горадні, бачачы варожыя адносіны шляхты й гарадзкога жыхарства да акупанта, вывеў усё свае войска з гораду й разьмясьціўся ў полі. Ён мяркаваў устанавіць сувязь зь іншымі расейскімі вайсковымі злучэньнямі і, абкружыўшы горад цесным колам, ізаляваць яго ад рэшты краіны, дзе паўстанскі рух быў ужо ў поўным разгары. Пры гэтым, аднак, Цыцыянаў не адважваўся на абстрэл Горадні, разумеючы вельмі добра палітычныя вынікі такога ўчынку. Таму ён абмяжаваўся ультыматумам, у якім запатрабаваў ад гораду вялічэзнага выкупу. Гарадзкі магістрат Горадні вымушаны быў згадзіцца з усімі патрабаваньнямі Цыцыянава і заплаціў яму ў сярэбранай валюце 101 552 рублі. Апроч гэтага, Цыцыянаў забраў з гораду 277 сувояў сукна й 550 стрэльбаў. Пасьля гэтага ён адступіў, накіроўваючыся ў Нясьвіж: дзякуючы гэтаму паміж Вільняй і Варшавай на пэўны час устанавілася беспасярэдняя сувязь.

Сваімі жорсткімі мерапрыемствамі Цыцыянаў спадзяваўся змусіць жыхароў Горадні й вакольную шляхту ўстрымацца ад далучэньня да акту паўстаньня. Але ягоныя захады не далі ніякіх практычных вынікаў. Жыхары Горадні, сабраўшыся ў Саколцы, не занятай маскоўскімі войскамі, 9.5.1794 г. далучыліся да паўстаньня й выбралі паўстанскія кіраўнічыя органы. Пачынаючы з 14.5 паўстанская ўлада ўжо працавала ў самой Горадні.

*(Канец у наст. №)*

*ЗНОСКІ:*

1. Асноўнай крыніцай для гэтае часткі артыкулу ёсьць праца Ул. Пічэты "К истории восстания Костюшки, 1794 г.", надрукаваная ў 7-ым томе "Ученых Записок Института Славяноведения АН СССР" за 1953 г. (гл. "Зважай", № 2 (34), б. 2), дзеля таго, і выключаючы адно некаторыя найбольш важныя выказваньні аўтара, у далейшым спасылкі будуць рабіцца толькі на працы іншых аўтараў і іншыя крыніцы.
2. Гл. таксама Kosciałkowski St., 'Rzeczpospolita obojga narodów (-1569 - 1795)', 'Dzieje ziem W. Ks. Litewskiego', Cykl wykładów. Prace Społeczności Akademickiej Uniwersytetu Stefana Batorego. Londyn, 1952, str. 82-83; Kozłowski E., Wrzosek M., 'Dzieje oręża polskiego', t. 2, 1794 - 1938, Warszawa, 1973, str.
3. БелСЭ, т. 8, бач. 349; Kopański St., 'Historia wojen i wojskowości', 'Dzieje Ziem W. Ks. Lit.' str. 149 - 150. Игнатенко А. П., "Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией (вторая половина 17 - 18 в.) Минск, 1974, стр. 160.
4. БелСЭ, т. 8, бач. 349.
5. 'Gazeta Wolna Warszawska', 27 maja, 1794.
6. Тамсама, 31.5.1794.
7. Игнатенко А. П., op. cit., б. 160
8. Бел СЭ, т. 8, б. 349.
9. Пічэта В. И., op. cit., б. 197.
10. Тамсама, б. 198.
11. Тамсама, б. 199.

## БЕЛАРУСКАЯ ВАЙСКОВАЯ ЦАНТРАЛЬНАЯ РАДА

*(Заканчэньне. Пачатак гл. №3(31), 4(32), 2(34))*

Як ведама, у тэорыі Камуністычная партыя запісала ў сваей праграме, як адно з асноўных палажэньняў, прынцып аб праве нацыяў на самавызначэньне, аж да адзьдзяленьня. У практыцы-ж, Першы Ўсебеларускі Кангрэс, у якім удзельнічала 1915 чалавек, — зь іх 1175 з рашаючым голасам і 740 з дарадчым, — як толькі пачаў схіляцца да ідэі незалежнасьці Беларусі, быў разагнаны бальшавікамі на загад Камісарыяту нутраных справаў Заходняй вобласьці ад 17.12.1917 г. (паводля старога стылю). У загадзе Камісарыяту, падпісаным старшынём СНК вобласьці К. Ляндэрам, гаварылася: *"Оцепить здание, где происходит заседание Белорусского с'езда, арестовать Президиум с'езда, а равно избранный им орган краевой власти, отозвать со с'езда т.т. большевиков и стоящих на точке зрения Советской власти, и самый с'езд об'явить распущенным".* (Гл. "Кастрычнік на Беларусі. Зборнік артыкулаў і дакумэнтаў". Менскі, 1927, б. 284).

Паводля Ляндэра, Кангрэс быў разагнаны таму, што ён стварыў урад краю і вынес рэзалюцыю аб Устаноўчым сходзе. Для Беларусаў разагнаньне Кангрэсу было "найгрубейшым пасяганьнем на вярхоўныя правы беларускага народу, на яго землі", "парушэньнем сувэрэнных правоў беларускага народу пры ўжыцьці гвалту". Разумелі гэта й самі бальшавікі, якія ўсьведаміўшы што разагнаньнем Кангрэсу й начным нападам на БВЦР пачынаюць канчаткова траціць ідэйныя ўплывы на беларускія масы, пачалі шукаць спосабу дамовіцца зь Беларусамі.

Першым крокам у гэтым кірунку было рашучае адмяжаваньне Ўсерасейскага Саўнаркома ад становішча, занятага Саўнаркомам Заходняй Вобласьці ў пытаньні Ўсебеларускага Кангрэсу. Як адзначае Кастусь Езавітаў ("Крывіч", № 9(1), б. 80), "Вінаватыя ў разгоне Кангрэсу асобы атрымалі па тэлеграфу вострую вымову". Беларускім арганізацыям у Петраградзе й Маскве, а таксама і Радзе Беларускага Кангрэсу было зноў падкрэсьлена, што "Петраградзкі СНК вызнае права народаў на самавызначэньне безагаворачна, навет да адзьдзяленьня ад Расеі".

Галоўнакамандуючаму-ж М. Крыленку было даручана адразу вярнуцца назад у Магілёўскую Стаўку і распачаць перагаворы зь Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Радай. Перамовы пачаліся праз тыдзень пасьля менскіх падзеяў. У склад беларускай дэлегацыі ўваходзілі К. Езавітаў і сябра БВЦР — І. Серада. Ад бальшавікоў выступаў сам Крыленка, які накінуўся на палітыку Беларускай Вялікай Рады за тое, што, яна не жадала ўвайсьці ў паразуменьне з савецкай уладай.

Выслухаўшы да канца агітацыйна-дэмагагічную прамову Крыленкі, прадстаўнікі БВЦР катэгарычна апратэставалі яе й заявілі, што ўсе размовы й закіды адносна "буржуазнасьці" Вялікай Рады й БВЦР ня маюць ніякіх асноваў, бо ў Радзе няма ні памешчыкаў-паноў ні капіталістаў. Адначасна яны зажадалі ад Крыленкі, каб ён адклікаў усе свае закіды, стаў на грунт самавызначэньня народаў, пакінуў умешвацца ў нутраныя беларускія справы, ды забараніў сваім падуладным перашкаджаць у фармаваньні беларускіх вайсковых злучэньняў і сам не рабіў у гэтым перашкодаў.

Падкрэсьліўшы, што прадстаўнікі БВЦР прыехалі ў свой беларускі Магілёў не як нейкія госьці-просьбіты, але як гаспадары свайго краю, у якім сам Крыленка знаходзіцца толькі часова, яны зажадалі ад яго, каб ён прытрымліваўся высунутага савецкай уладай прынцыпу "самавызначэньня народаў, аж да адзьдзяленьня ад Расеі". Гэтая рашучасьць прадстаўнікоў БВЦР змусіла Крыленку зьмяніць свой тон і ўзяцца за сур'ёзныя перамовы.

Вынікам гэтае сустрэчы ў Магілёўскай Стаўцы было тое, што Беларусы маглі пачынаць фармаваньне сваей беларускай Чырвонай Арміі. Пазнаёміўшыся із сакрэтнымі плянамі й загадамі, якія ўдалося неяк здабыць у штабе бальшавіцкага галоўнакамандуючага, БВЦР пастанавіла выкарыстаць прапанову Крыленкі й распачаць фармаваньне Нацыянальнай Беларускай Гвардыі ў Менску, Бабруйску, Рагачове, Магілёве й Барысаве. Створаныя раней беларускія вайсковыя злучэньні ў Віцебску, Смаленску, Воршы, Лунінцы, Адэсе а таксама 4-ты Беларускі Армейскі Корпус, які ў той час знаходзіўся ў Румыніі, захоўваліся ў тым стане, у якім яны былі да гэтага часу й перафармаваньню ў Нацыянальную Чырвоную Гвардыю не падлягалі.

Даведаўшыся пра ўсё гэта, камандуючы Заходнім Фронтам А. Мясьнікоў перапалохаўся й каб выйграць на часе, запрапанаваў БВЦР стварыць адмысловую мяшаную камісію для больш дэталёвай распрацоўкі пляну фармаваньня Беларускай Нацыянальнай Гвардыі. У міжчасе зажадаў ад Крыленкі, каб ён скасаваў загад аб беларускіх вайсковых фармаваньнях. Гэты, аднак, катэгарычна адмовіўся, і то ня з прычыны сымпатыі да Беларусаў, а дзеля чыста асабістых матываў.

2.1.1918 г. у штабе Заходняга Фронту адбылася першая нарада мяшанай камісіі для апрацоўкі падрабязнага пляну фармаваньня Беларускай Нацыянальнай Чырвонай Гвардыі. Камісія выслухала загад галоўнакамандуючага аб фармаваньні БНЧГ, палажэньне аб фармаваньні Расейскай Чырвонай Арміі, а таксама плян фармаваньня, апрацаваны БВЦР, і тэхнічны даклад капітана Жукава.

Наступная нарада была вызначаная на 4.1.1918 г., аднак ні ў гэты дзень, ні 7-га, ні 9-га, ні пазьней камісія не змагла працягваць сваю працу, бо бальшавікі на нарады не зьяўляліся. "Стала ясна, — кажа К. Езавітаў, — што Мясьнікоў назначыў гэтую камісію вылучна з мэтаю адцягнуць гэтую справу, каб выкарыстаць час у перагаворах із Стаўкай галоўнакамандуючага". І хоць Крыленка свайго загаду й не скасаваў, усялякая магчымасьць паразуменьня з бальшавікамі адпала поўна-

*******************************************

*ПАШЫРАЙ І ПАДТРЫМОЎВАЙ "ЗВАЖАЙ"*

*АДЗІНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ*

сьцяй. Пры такіх умовах нельга было й думаць аб фармаваньні Беларускай Нацыянальнай Чырвонай Арміі ды наагул аб фармаваньні іншых беларускіх нацыянальных вайсковых адзінак.

Ня маючы магчымасьцяў у Менску легальна арганізаваць свайго войска, Беларуская Вайсковая Цантральная Рада пастанавіла рабіць гэта канспіратыўным спосабам. У выніку і неўзабаве ўдалося замяніць склад 289-га пяхотнага запаснога палка ў Менску так, што ў ім апынулася аж 75% Беларусаў. Адначасна з гэтым вялася шырокая праца паза горадам сярод сялянаў. Насьпяваў момант рашучага змаганьня за ўладу.

Калі, аднак, заставалася зрабіць апошняе намаганьне і ўлада перайшла-б, урэшце, да БВЦР і Рады Ўсебеларускага Кангрэсу, на іх звалілася новая бяда. Ці з ініцыятывы самога Мясьнікова, ці СНК Заходняй Вобласьці, а зусім праўдападобна дзякуючы інтрыгам варожа настаўленых да беларускага нацыянальнага руху Палякаў, якія часта супрацоўнічалі з бальшавікамі з мэтаю яго зьнішчэньня, ноччу з 31-га студзеня на 1-га лютага 1918 году на будынак БВЦР быў зроблены новы напад бальшавікоў. БВЦР абвяшчалася распушчанай, частка ейных сяброў была арыштаваная, рэшта кіраўнікоў, як ворагі савецкай улады, падлягалі Рэвалюцыйнаму Суду.

Акт гвалтоўнага арышту БВЦР быў апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу цярпеньня беларускага грамадзтва. З усіх бакоў пасыпаліся ў Менск і Петраград рашучыя пратэсты беларускіх вайсковых і грамадзкіх арганізацыяў. У Кіеве, Адэсе і Ясах (Румынія) зараз-жа пачаліся перамовы з украінскім і румынскім урадамі аб хутчэйшым пропуску й перавозе беларускіх вайсковых злучэньняў у Беларусь. У Віцебску канфлікт паміж БВР Паўночнага Фронту й бальшавікамі выліваецца ў збройную сутычку, у выніку якое ўлада ў горадзе пераходзіць да Беларусаў, а СНК уцякае ў Смаленск. Віцебскія Беларусы рыхтуюцца на помач Менску. Тое самае робіць беларускі кавалерыйскі полк у Воршы.

На вялікі жаль, у гэны цяжкі момант, калі ўсе беларускія сілы павінны былі кінуцца адным фронтам супраць ворага, у самым Выканаўчым Камітэце БВЦР адбылася сумная й ганебная падзея: ужо празь некалькі хвілінаў пасьля арышту заступніка старшыні й сакратара БВЦР бальшавікамі й выхаду сяброў Рады Кангрэсу й іншых, што мелі пацьверджаньні аб прыналежнасьці да Беларускай Сацыялістычнай Грамады, трое зь іх, адкамандараваных з тылу і, як выглядала, страшэнных трусоў, пастанавілі здацца й прызнаць савецкую ўладу ды супрацоўнічаць зь ёю.

Здрада гэтая зрабіла вельмі цяжкое ўражаньне на ўсе беларускія арганізацыі, асабліва пасьля таго, як бальшавіцкая менская "Звязда" апублікавала іхны ліст, у якім яны адмяжоўваліся ад БВЦР і наагул ад беларускага нацыянальнага руху. Яна была адным з найбольшых ударaў па працы БВЦР, якая ад гэтага часу разьбілася на пяць розных групаў: 1) групу арыштаваных, 2) здраднікаў, 3) групу тых, што дзеялі паза межамі Менску, 4) групу ўцёкшых зь Менску пасьля апублікаваньня пісьма ў "Зьвязьдзе" і 5) групу тых, хто застаўся ў Менску ў падпольлі.

Але падзеі не стаялі на месцы, яны разьвіваліся зь вялізарнай шпаркасьцю. У Берасьці Немцы ставяць бальшавіцкай дэлегацыі штораз новыя й новыя дамаганьні. Урэшце ультыматум і "паходны мір". У Менску пачынае адчувацца нейкая трывога. Арыштаваным сябром БВЦР удаецца ўстанавіць кантакт з тымі, што засталіся на свабодзе. 19.2.1918 г. арыштаваныя ўцякаюць з гаўптвахты, склікаюць надзвычайную нараду ВК БВЦР, арганізуюць Беларускую Камандатуру і, апіраючыся на некаторыя вайсковыя групы, на прафсаюзы, чыгуначнікаў, тэлеграфістаў і іншых, выступаюць на адкрытае змаганьне з бальшавікамі.

А гадзіне дзявятай вечарам улада ў Менску пераходзіць у рукі БВЦР і ВК Рады Ўсебеларускага Кангрэсу. Бальшавікі ў перапалоху пакідаюць Менск. Усю ноч засядае Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Кангрэсу, які апрацоўвае 1-ю Грамату да Беларускага Народу й выдзяляе із свайго складу першы беларускі ўрад — Першы Народны Сакратарыят Беларусі ў ліку 7 Народных Сакратароў зь Язэпам Варонкам на чале.

Назаўтра нашы вайсковыя часьці, якія падтрымалі БВЦР, на загад Каманданта, зводзяцца ў Першы Менскі Беларускі Полк пад кіраўніцтвам Радкевіча. Конныя адзьдзелы даручаюцца Нямкевічу й Мядзьведзеву, шэфам міліцыі назначаецца Ф. Ждановіч.

Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Кангрэсу кааптуе ў свой склад сяброў БВЦР, што засталіся ў Менску й выдзяляе новых народных сакратароў у Першы Народны Сакратарыят Беларусі. У гэтым першым беларускім урадзе прадстаўнікі БВЦР атрымалі пяць месцаў: Яўхім Бялевіч — Народны Сакратар Справядлівасьці, Янка Серада — Народная Гаспадарка, Тамаш Грыб — Землясробства, Пётра Крэчэўскі — Кантроля, Кастусь Езавітаў — Вайсковыя Справы. Пасьля гэтае каапташі БВЦР заканчвае сваю працу й існаваньне як асобная арганізацыя, а прыдзеленыя ў Раду Кангрэсу ейныя сябры вядуць далейшую працу ў першым і наступных Народных Сакратарыятах, у Выканкоме Рады Ўсебеларускага Кангрэсу, а пасьля арганізацыі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, працуюць і ў ейным складзе.

На заканчэньне гэтага артыкулу неабходна адзначыць, што ня гледзячы на ўсе памылкі й перашкоды, здрады, інтрыгі й іншыя цяжкасьці, кіраваная ня гэтулькі плянамі, інструкцыямі ці дасьледваньнямі, колькі глыбокім патрыятызмам да сваей Бацькаўшчыны, Беларуская Вайсковая Цантральная Рада здолела апраўдаць да пэўнае ступені свае прызначэньне й давяла справу да канца, перадаючы ўладу ў Менску й на Беларусі ў рукі Першага Беларускага Нацыянальнага Ўраду. Ня ейная віна, што хутка на галаву гэтага ўраду звалілася новае ліха, якое перашкодзіла яму ўтрымаць уладу ў сваіх руках. Яна сваё гістарычнае заданьне выканала. Для нас-жа гісторыя БВЦР вельмі павучальная. Зь яе мы павінны зрабіць адпаведныя высновы, каб не паўтарыць памылак мінулага. У нашай далейшай вайскова-палітычнай дзейнасьці мы мусім яе заўсёды браць пад увагу.

*В. Сянькевіч*



Царква былога манастыра кармелітаў. 1654.
Глыбокае, Віцебская вобласць.

Здымка гэта ўзята з альбому "Памяць зямлі беларускай", выдавецтва "Беларусь", Менск, 1979 году.

Некаторыя нашы суродзічы, што былі ў Глыбокім, ці паходзяць з Глыбоччыны, прыгадваюць, што глыбоцкая праваслаўная царква мела ў цэнтры велічны купал, які бальшавікі зьнішчылі пры наступленьні ў 1944 г. Гэтта-ж побач фронту царквы маскоўскія акупанты пабудавалі станцыю міліцыі. Ці не таму, каб запэўніць грамадзянам гварантаваную канстытуцыяй свабоду веры й наведаньня храму?

************************************************

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 8-га чырвеня да 20-га жнівеня атрымана на "Зважай" і на расходы, зьвязаныя з 2-й Сусьветнай Сустрэчай Беларускіх Вэтэранаў у Кліўлендзе 1-га верасьня:

А.М. – 10,00 дал., др. Б.Рагуля – 50,00, М.Раецкі ад Згуртаваньня Беларусаў Заходняй Аўстраліі – 20,00, К.Акула – 300,00, А.М. – 200,00, М.Ягаўдзік ад Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, адзьдзелу Кліўленд – 240.00.

*Разам – 820 даляраў. Усім, што нас падтрымалі, вельмі дзякуем.*

************************************************

Эпіграма

У "Лібэрты", усім наўзьдзіў,
Наш "Менск" на "Мінск" ён замяніў,
А цяпер квокча у Глен Коў
Паэт і патрыёт Сяднёў...

*К. Акула*

************************************************

## *АГУЛЬНЫ СХОД АДЗЬДЗЕЛУ ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У КЛІЎЛЕНДЗЕ*

Агульны Сход адбыўся селета 1-га ліпеня. Кіраваў ім Аркадзь Сацэвіч, а сакратараваў К. Калоша.

У асноўнай справаздачы М.Ягаўдзік сказаў што хоць адзьдзел заснаваўся навет раней за той, што ёсьць у Нью Брансвіку, але быў менш дзейным. У 1976 годзе ў кіраўніцтва ўваходзілі: Я. Шымчык – кіраўнік, Ул. Дунец – сакратар і Я. Каваленка – скарбнік. У 1980 годзе кіраўніцтва пераняў Ю. Гасьцееў, але незадоўга і ён адмовіўся, а на дамаганьне д-ра Я. Сажыча функцыю камандзера да скліканьня агульнага сходу ўзяў Мікола Ягаўдзік.

Праца ў адзьдзеле выяўлялася ў сьвяткаваньні Дня Гэрояў (Слуцкага Збройнага Чыну), ладжаньні пікнікаў, удзелу ў сустрэчах, высьвячэньні помнікаў, паховінаў вэтэранаў.

Я. Каваленка прачытаў справаздачу скарбніка. У касе цяпер ёсьць 798.00 даляраў. У ўправу выбралі – М. Ягаўдзік – камандзер, Аркадзь Сацэвіч – заступнік, Ул. Дунец – сакратар, Я.Каваленка – скарбнік і Андрэй Стрэчын – сябра. У далейшым сход абмяркаваў пляныў сувязі з Другой Сусьветнай Сустрэчай .5'"(3:4-2 Вэтэранаў.

## ДРУГАЯ СУСЬВЕТНАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКІХ ВЭТЭРАНАЎ

*Кліўленд, 1-га верасьня, 1984 г.*

На Сустрэчы прысутныя будуць вэтэраны з Аўстраліі, Англіі, Гішпаніі, Францыі, Нямеччыны, апроч мясцовых і з суседняй Канады.

У праграме: гадз. 10-я раніцай – падняцьцё сьцягоў, гадз. 3-я: галоўная ўрачыстасьць. У ёй будуць прывітаньні, даклады, у тым ліку й справаздача "Зважай". Галоўны даклад на тэму "Ад Касьцюшкі да Беларускай Краёвай Абароны" будзе мець наш выдатны гісторык і супрацоўнік часапісу "Зважай" др. Віктар Сяňькевіч.

************************************************

## ВЫЙШЛА З ДРУКУ НОВАЯ КНІГА К. АКУЛЫ *"УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА"*

*Выданьне "Пагоні"*

140 бачын. Цана – у Канадзе й ЗША – 15 дал., у Аўстраліі - 10 даляраў, у Англіі - 5 хунтаў.

Зьмест: "Запіскі Яўхіма Крайняга", п'еса "Тараканы ў саладусе", вершы, "Людзі й людзі" – нарыс пра людзей і крызіс у БАПЦ, "Россыпы" – аўтабіяграфічныя згадкі, "Дэманстрацыя на Экспо 67", "Дзе жыве Беларусь", – пра выдатных працаўнікоў-патрыётаў на выгнаньні.

***Можна замаўляць у "Зважай". Чэкі выпісваць на прозьвішча аўтара.***